*Сатырычным пяром*

# Рывок у «палатку»

Вось і скончылася вылучэнне прэтэндэнтаў у лукашэнкаўскую «Палату». Адны паспрабавалі гэта зрабіць шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў, другія — праз працоўныя калектывы і партыйныя з'езды.

Як і меркавалася загадзя, «адсеў» распачаўся ўжо на пачатковай стадыі вылучэння. Размовы пра тое, што ўлада вызначылася, каго жадае бачыць у беспраўным органе, мабыць, мае пад сабой глебу. У сур'ёзнай справе ўмацавання рэжыму выпадковасцяў быць не павінна. Хоць асобныя кандыдаты, «узяўшыся за гуж», яўна не разлічылі ўласных магчымасцей.

Так, 6 чалавек не набралі патрэбных 1000 подпісаў выбаршчыкаў. Ірванулі са старту досыць жвава, але да фінішу сілы не хапіла. Бо бегаць па кватэрах выбаршчыкаў з раніцы да вечару і тлумачыць ім, няўцямным, што менавіта ты варта быць іх кандыдатам у дэпутаты — цяжкая чарнавая праца. А само сабою нічога не робіцца.

Пасля рэгістрацыі 14 верасня яшчэ 20 кандыдатаў не адшукалі сябе ў спісах. Сярод малавядомых асобаў кідаецца ў вочы прозвішча Валерыя Шчукіна, праваабаронцы, карэспандэнта газеты «Народная Воля». Па афіцыйнай версіі ў яго забракавалі частку сабраных подпісаў.

У сувязі з гэтым згадваецца інтэрв'ю з Валерыем Аляксеевічам, апублікаванае і бюлютэні №8 (красавік 2000 г.) «Правы на волю» праваабарончага цэнтру «Вясна». На пытанне: «Вы не шкадуеце, што 25 сакавіка з'ехалі ў Віцебск? (*там па пастанове суддзі Чыгуначнага раёна ён адсядзеў 10 сутак арышту — рэд.*), чытаем адказ: «Не. Наадварот, я лічу, што зрабіў патрэбную справу. Я сяму-таму навучыў віцяблян... Той вопыт, які я назапасіў, трэба ж каму-небудзь перадаваць!»

Не, шаноўны спадар Шчукін, мяркуючы па зробленай Вамі працы на шляху ў «палатку», давядзецца яшчэ не раз прыязджаць у горад Віцебск, каб пераняць назапашаны вопыт правядзення выбарчых кампаній у сяброў гарадскога клубу выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». Подпісы трэба збіраць, каб камар носу не падтачыў. І ўвогуле, кожны павінен займацца сваёй справай. Тыя, каму адмовілі ў рэгістрацыі, паспрабавалі абскардзіць прынятае рашэнне ў Цэнтрвыбаркаме. Пашанцавала тром: Юрыю Лаўрэнаву (Віцебска-Чкалаўская акруга №20), Уладзіміру Лабоўкіну (Полацкая сельская №29) і Генадзю Муратаву (Віцебска-Чкалаўская №20). Хутчэй за ўсё, у «палату» гэтыя людзі не запланаваныя. Затое бачнасць дэмакратыі захаваная.

Падключыўся да разгляду скаргаў і Вярхоўны суд краіны, але па Віцебскай вобласці больш кандыдатаў не стала. 9 прэтэндэнтаў засталіся ні з чым.

Дык што ж мы маем пасля «фільтрацыі»? На 16 вакантных месцаў ад Віцебшчыны прэтэндуе 87 кандыдатаў, што складае больш за 5 чалавек на адно месца. Зарэгістравана 10 жанчын, што складае 11,5%, у той час як у сённяшнім складзе палаты іх прысутнічае 4,5%.

Так званых «варагаў», якіх не турбуюць мясцовыя праблемы, афіцыйна зарэгістравана 24 чалавекі ці 27,9%. З іх дзесяць мінчан звярнуліся тварам да прыдзвінскага краю.

А зараз, шаноўны чытач, набярыся крыху цярпення і атрымай невялікую порцыю статыстыкі па сацыяльным складзе і партыйнай прыналежнасці. Каго тут толькі няма! 25 інжынераў, 23 выкладчыкі, 6 дактароў, 8 юрыстаў, 5 эканамістаў, 4 аграномы, 2 ветурачы і г.д. Нават адзін тэлеграфіст ёсць. І ўсе перакананыя, што народжаныя дзеля парламенцкай работы і могуць зрабіць шчаслівымі сваіх выбаршчыкаў.




У выбарчым марафоне ўдзельнічаюць прадстаўнікі 7 палітычных партый. Некаторыя з досыць экзатычнымі назвамі, пра існаванне якіх затурканыя побытам выбаршчыкі нават не здагадваюцца. Што можна сказаць пра Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці? А яна вылучыла двух прадстаўнікоў.

Заблытацца можна і ў камуністычных партыях. Іх аж дзве. І кожная прэтэндуе на вядучую ролю ў грамадстве. Праўда, члены КПБ, на наш погляд, хутчэй прыдуць да рынкавага сацыялізму, бо яна мілей за ўсіх сэрцу таварыша Лукашэнкі. 12 сталі ў чаргу ў «палатку». Усяго партыі накіравалі 36 чалавек ці 41,3% ад агульнай колькасці зарэгістраваных кандыдатаў.

Сярод разнакаляровага партыйнага ландшафту самотна выглядае прадстаўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» Юры Аляксандравіч Лаўрэнаў, што выйшаў да фінішу шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў. Цікавая постаць. Колькі мы ведаем спадара Лаўрэнава, столькі ён дэпутатствуе ў Віцебску. Быў дэпутатам абласнога савету, членам прэзідыуму той жа фармацыі, дэпутатам гарсавету 22-га і 23-га скліканняў. За апошнія пяць год дзевяць разоў удзельнічаў у выбарах. Можна сказаць, своеасаблівае хобі. Відаць, Юры Аляксандравіч, вырашыўшы ўсе праблемы на мясцовым узроўні, займеў намер падацца ў сталіцу ратаваць Айчыну ад экс-прэзідэнта. Нават адмовіцца ад дырэктарскага крэсла ў 40-й школе не шкада. Можна пайсці і з пасады старшыні рэгіянальнай арганізацыі Хельсінскага камітэту. Хай правамі гнаных і пераследуемых апякуецца Усявышні.

Калі ўважліва прыглядзецца да спісу кандыдатаў у народныя абраннікі, то ўбачым шмат знаёмых твараў. Часта можна сустрэць на гарадскіх вуліцах ззяючы твар дэпутата сённяшняй «палаткі» Валерыя Міхайлавіча Аляксандрава, былога старшыню Гаспадарчага суда па Віцебскай вобласці. Ну як не радавацца, калі без яго, кваліфікаванага юрыста (як сам ён любіць паведамляць у вузкіх колах), заканатворчы працэс проста згасне. Вось і ідзе ён другі раз у «палатку». Праўда, стартавую пляцоўку змяніў. У 1995 годзе вылучаўся ў склад Вярхоўнага Савету 13-га склікання спачатку па Полацка-Задзвінскай акрузе №73, але дэпутатам стаў з другога тура па Віцебска-Праўдзінскай акрузе №63. У цяперашнюю выбарчую кампанію зарэгістраваўся кандыдатам у дэпутаты па Віцебска-Горкаўскай акрузе №17.

Мы, канешне, разумеем, што спецыялісты накшталт Аляксандрава патрэбныя ў любой акрузе. Тым больш з такім вопытам працы ў аддзеле адміністратыўных органаў былога абкама партыі. Вось і даводзіцца скакаць з месца на месца. Увогуле варта адзначыць асаблівую адчувальнасць Валерыя Міхайлавіча да кліматычных зменаў. Пасля нелегітымнага рэферэндуму ў 1996 годзе ён адразу разабраўся, куды дзьме вецер, і перабег у «палатку». Будзьма спадзявацца, што, калі ў наступным годзе ў выпадку абрання новага прэзідэнта, калі пачнецца зваротны працэс, то ў шэрагу першых перабежчыкаў апынецца Аляксандраў. Старая звычка вагацца разам з генеральнай лініяй партыі павінна азвацца.

Не думайце, што колькасць дэпутатаў-летуноў абмяжоўваецца адным прозвішчам.

Напрыклад, вясновым жаўруком сп.Лапкоўскі Алег Міхайлавіч узняўся ў неба ў 1995 г. з азёрнай Браслаўскай выбарчай акругі №40 і ў гэтым годзе апусціўся на прыўкрасную зямлю Мёрскай акругі №24. Заліваецца пералівамі — заслухаешся.

Выбаршчыкі Ленінградскай акругі №180 г.Віцебска па выбарах у абласны савет яшчэ ў 1990 г. аказалі давер сп.Лектараву Валерыю Мікалаевічу. Але той нядоўга насіў на лацкане дэпутацкі значык. Праз два месяцы здаў мандат і перабраўся ў кіраўнічае крэсла аблздраўаддзела. У 1995 годзе зрабіўся дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Полацкай сельскай акругі №50, а зараз спрабуе выцягнуць шчаслівы білет па Шумілінскай акрузе №32.

Дэпутат Хрол Васіль Пятровіч у 1995 годзе з другой спробы трапіў у авальную залу Вярхоўнага Савета ад Галадзедаўскай акругі №223 г.Менску. Зараз вырашыў перадаць багаты сталічны вопыт віцебскай глыбінцы і выплыў у Глыбоцкай акрузе №22.

Скуль бярэцца такое непастаянства некаторых дэпутатаў? Думаецца, так лягчэй выконваць наказы выбаршчыкаў. Адны ўжо справаздачы не запатрабуюць, бо не ведаюць, дзе шукаць свайго абранніка, а гэтыя яшчэ ягоных магчымасцяў не ведаюць.

У прыемнай кампаніі прэтэндэнтаў мы пазнаем былога намесніка кіраўніка па кадрах упраўлення КГБ па Віцебскай вобласці Бурака Віктара Канстанцінавіча. А то як жа ў «палатцы» без чэкіста?! Раптам якая змова? Хто дакладзе наверх? Так што за Бурака можна не хвалявацца — колькі трэба працэнтаў, столькі і набярэ. Недаверу тут не месца. Органы дзяржбяспекі яшчэ з трыццатых гадоў карыстаюцца заслужаным аўтарытэтам.

У часы КПСС лічылася прэстыжным падкрэсліваць сваю прыналежнасць да авангарду будаўнікоў камунізму. Зараз сувязь з карлікавымі партыямі нікому рэйтынгу не дадае. Вось і з'явіўся ў абласных выбарчых акругах 51 кандыдат з так званых «беспартыйных» і «незалежных». Толькі не падумайце дрэннага. Проста некаторыя законспіраваліся да лепшых часоў.

На мінулых выбарах у парламент ужо ведомы нам кандыдат у дэпутаты Хрол В.П. (Глыбоцкая акруга №22) вылучаўся ад Партыі народнай згоды. Зараз пра гэта не ўзгадвае. Прэтэндэнтка на дэпутацкі мандат ад Віцебска-Чыгуначнай акругі №18 Небылова Валянціна Данілаўна раней была сябрам ЛДПБ. Пра тое, у якіх адносінах яна зараз з гэтай партыяй — маўчок.

Не абвяшчае сваю прыналежнасць да аграрнай партыі кандыдат па Віцебска-Горкаўскай акрузе №17 Засімовіч Васіль Іванавіч. Зараз аграрны сектар асаблівымі поспехамі не вылучаецца. Дык навошта хваліцца?

Дэпутат дзеючай «палаткі» Розынка Пётр Міхайлавіч, кандыдат па Пастаўскай акрузе №30 нічога не паведамляе пра свае членства ў КПБ. А дарма. Лідэр КПБ таварыш Чыкін карыстаецца заслужаным аўтарытэтам у Аляксандра Рыгоравіча, і гэта можа паспрыяць на шляху ў «палатку».

Варта адзначыць, што некаторыя кандыдаты — майстры на розныя вынаходніцтвы. Адзін змяніў нацыянальнасць у анкеце. Пажадаў стаць беларусам. Пасля 10-гадовай цяжкой працы Беларускага Народнага Фронту на ніве беларушчыны быць беларусам робіцца прэстыжна.

Другі кандыдат, што стаіць на варце патрыярхальнага ладу сям'і, не распаўсюджваецца пра тое, што тройчы быў жанаты. Каб, крый Божа, чацвёрты раз не спакусіцца, мабыць і вырашыў змяніць лад жыцця — з галавой акунуцца ў дэпутацкую дзейнасць. Прозвішча не паведамляем: маглі ж добраму чалавеку трапіцца дрэнныя жонкі?

Трэці хавае крымінальнае мінулае. Лічыць, што выбаршчыкам гэта нецікава. Не за палітыку ж у свой час трапіў на нары!

Чацвёрты ў свой час дужа здзівіў калег. Увечары пайшоў з працы з адным прозвішчам, а раніцай з'явіўся пад іншым. Вырашыў, што пад былым нельга ўзначальваць партыйны камітэт. І вось ужо некалькі разоў удзельнічае ў выбарах, а сваім выбаршчыкам — ні-ні пра гэта. Яго продкі свайго прозвішча не саромеліся. Яны ж у дэпутаты не хадзілі.

Кінуўшы беглы позірк на палітру зарэгістраваных кандыдатаў, не ведаеш, смяяцца ці плакаць. Мала што выбары пройдуць у бяспраўную палату, дык яшчэ і кандыдаты не цешаць вока. За плячыма многіх народных заступнікаў ужо не адзін выбарчы марафон. Яны ўцягнуліся, зрабіліся прафесіяналамі і дзейнічаюць па алімпійскім прынцыпе: «Галоўнае — не перамога, а ўдзел». За грошы падаткаплацельшчыкаў.

Ці не варта прыслухацца да цвярозага голасу Аляксандра Рыгоравіча, што сказаў некалькі год таму: «*Не ходите на выборы, всё равно обманут*».

Асабіста мы 15 кастрычніка возьмем некалькі бутэлек свежага піва — ды ў лазню, на першы парок. Расцягнемся на палку, памахаем бярозавымі венічкамі. Выйдзем, глынём піўка, пагаворым пра жанчын.

Жыццё і так кароткае. Што ўжо тут з-за выбарчага фарсу сябе задавальнення пазбаўляць? Хай галасуюць тыя, каму жыць стала лепш ды весялей. А вынікі без нас падвядуць. Без дэпутатаў не застанемся.

А ты, чытач, як мяркуеш?

*Гусь з Елагаў,*
*Якаў Віцебскі*

*Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку аднаму грамадзяніну горада Віцебска, які прафінансаваў выхад гэтага нумара. Мы пакуль не можам назваць яго прозвішча, але прыйдзе час, калі мы абавязкова гэта зробім.*

*Адрас рэдакцыі: Крапівінскае поле пад Воршай.*
*Код 8.09. Тэлефон 1514.*
*Набрана й зьвярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ.*
*Надрукавана ў друкарні Кастуся Каліноўскага.*

*"Выбар" Заснавальнік: Віцебскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары".*
*Рэдактар Барыс Хамайда.*
*Наклад 499. Замова – 7.*
*Падпісана да друку 27.09.2000 г.*